# ЗВЯЗДА

Газета выдаецца са жніўня 1917 года

20 лістапада 1991 г.
СЕРАДА
№ 222 (21750)
Цана 20 кап.


## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

МІНСК

### БАРЫС НЕ ЗАЎСЁДЫ МАЕ РАЦЫЮ

**Як стала вядома з блізкіх да беларускага ўрада колаў, хутка нашу рэспубліку наведае прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Барыс Ельцын. Яго візіт у Мінск плануецца на апошні тыдзень лістапада.**

**Відаць, Барыс Мікалаевіч пастараецца ўмацаваць свае пазіцыі ў Беларусі, што будзе не так і проста: адносіны да яго цяпер у рэспубліцы далёка не адназначныя.**

**Да яго славы палітыка, што ўзначаліў супраціўленне жнівеньскаму путчу, усё больш прымешваецца «слава» дзяржаўнага дзеяча, зрабіўшага крокі, якія дэмакратычнымі сіламі Беларусі тлумачацца як імперскія.**

**Агенцтва «БелаПАН».**

### БУДАЎНІЧЫ КОМПЛЕКС НА ШЛЯХУ ДА РЫНКУ

**Адбылася сустрэча Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Кебіча з народнымі дэпутатамі рэспублікі — членамі Камісіі Вярхоўнага Савета па пытаннях архітэктуры, будаўніцтва, вытворчасці будаўнічых матэрыялаў і жыллёва-камунальнай гаспадаркі вёскі і горада, а таксама групай кіраўнікоў будаўнічых арганізацый горада Мінска і вобласці.**

Удзельнікі гутаркі адназначна выказаліся за хутчэйшы пераход будаўнічага комплексу на рыначныя адносіны. Было таксама падкрэслена, што дзяржаўнае рэгуляванне павінна ажыццяўляцца ў самых мінімальных памерах і толькі ў аб'ёмах дзяржаўнага заказу па важнейшых будоўлях рэспубліканскага значэння. Усё астатняе — кампетэнцыя дагавора паміж заказчыкам і падрадчыкам.

Не засталося ў баку і пытанне арганізацыйных структур. Тут, на думку ўдзельнікаў гутаркі, павінны дамінаваць дэмакратызацыя кіраўніцкага звяна і прадастаўленне свабоды нізавым будаўнічым арганізацыям.

**А. ЗАЙКОЎСКІ.**

### ПА ПУХАВІЦКАМУ ЧАСУ

**МАР'ІНА ГОРКА. (С. Ворскі). Указы — указамі, гісторыя — гісторыяй, а прырода бярэ сваё. Па ўсім відаць, узяла яна верх і над некаторымі кіраўнікамі раённых прадпрыемстваў. Выступаючы на сустрэчы вытворчага актыву ад імя працоўнага калектыву аграпрамтэхнікі, яе дырэктар В. Колас прапанаваў прысутным абмеркаваць у сваіх калектывах пытанне аб пачатку рабочага дня на гадзіну раней, чым цяпер. Займацца ў межах раёна пераводам стрэлак гадзінніка ўсё ж, відаць, не варта. Але міні-рэферэндумаў па пытанню аб рэжыме працы ў калектывах не пазбегнуць.**

**У хуткім часе яны і будуць праведзены.**

### ЭКАНОМІКА ПАВІННА БЫЦЬ...

**МАГІЛЁЎ. (А. Гаршкоў). У некаторых раёнах горада і вобласці часова выключаюць электраэнергію. Парушаецца нармальны лад жыцця і працы людзей.**

Энергетычны голад адчуваецца з-за неразумнага выкарыстання энергіі і паліва многімі прадпрыемствамі. Каб «Электрарухавік», рэгенератарны, металургічны і іншыя буйныя заводы прытрымліваліся жорсткіх правіл іх спажывання, можна было б пазбегнуць крайніх мер.

Між тым, эканоміць усё роўна давядзецца. З наступнага года кошт мазуту ўзрасце ў некалькі разоў.

### ПАСЛУХАЕМ МЕНДЗЯЛЕЕВА?

**НАВАПОЛАЦК. (У. Антонаў). Нядаўна сродкі масавай інфармацыі «абрадавалі» такім паведамленнем: залаты запас краіны растаў, як красавіцкі снег. І вось новая праблема: з «чорным золатам» у падземных кладоўках Сібіры таксама напружанне.**

**Навапалацкаму нафтаперапрацоўчаму заводу лістападаўскія пастаўкі сыравіны зніжаны адразу на 745 тысяч тон. Завадчане ў роздуме: якія тэхналагічныя ўстаноўкі трэба спыняць, а якія трымаць на паўгалодным пайку! Зіма ж на носе.**

**Відаць, самы час успомніць нам някрасаўскага дрывасека: хопіць паліць печы нафтапрадуктамі. Гэта, па словах Мендзялеева, усё роўна, што кідаць у агонь асігнацыі. Бярозавае паленне не падвядзе!**

### ЯКІ ГОРАД БЕЗ ЭКАЛАГІЧНАГА ПАШПАРТА?

**КРЫЧАЎ. (А. Балдоўскі). На пытанні аб наяўнасці шкодных рэчываў у зямлі, вадзе і паветры Крычава ўзяліся адказаць навукоўцы Маскоўскага геалагічнага інстытута АН СССР. За 18 месяцаў яны выканаюць заказ гарадскога Савета — падрыхтуюць экалагічны пашпарт горада.**

Работу ўзначаліць загадчыца лабараторыі рэгіянальнай экалогіі ГІНа, кандыдат геаграфічных навук Л. Марозава.

Навукоўцы дадуць ацэнку забруджанасці глебы, паветра і пітной вады ў горадзе, вады і донных адкладанняў ракі Сож, вызначаць забруджвальнікаў, узроўні шкодных выкідаў, складуць падрабязную карту і распрацуюць навуковыя рэкамендацыі.

Работы пачнуцца 1 студзеня 1992 года. Іх кошт — 150 тысяч рублёў. Вынікі даследаванняў паветра і снежнага покрыва навукоўцы павінны падрыхтаваць ужо ў маі наступнага года.

### «БЕЛЫ САБАКА» Ў ВІЦЕБСКУ

**ВІЦЕБСК. 22—24 лістапада тут адбудзецца Міжнародны фестываль папулярнага эстраднага танца пад дэвізам «Белы сабака».**

Гэта будзе грандыёзнае шоу, на якое прыедуць лепшыя калектывы нашай краіны і замежныя госці. Фестываль адначасова з'яўляецца камерцыйным мерапрыемствам, бо яго арганізатарамі выступілі вядомыя Маскоўская прыватная фірма «Вячэрнія зоры» і творчае аб'яднанне забаўляльных праграм Дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, якая выдзеліла для трансляцыі віцебскага шоу першую праграму ў лепшыя гадзіны суботы і нядзелі і будзе трансліраваць яго па каналах Еўрабачання на краіны Еўропы, Канаду, Ізраіль.

У састаў журы ўвойдуць рэжысёр творчага аб'яднання забаўляльных праграм Дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Уладзімір Шмакаў, харэографы — балетмайстар балета «Новы Саюз» Аляксандр Башын, балетмайстар Андрэа Блэк (ЗША), балетмайстар Марыта Маніла (Фінляндыя), дырэктар і мастацкі кіраўнік Дома моды Вячаслаў Зайцаў і іншыя вядомыя дзеячы культуры.

### КАРАСЬ КЛЮНУЎ НА... АГУРОК

**ЖЫТКАВІЧЫ. (У. Пернікаў). Не можа быць, скажаце! Можа! Жыхар вёскі Запясочча В. Карась ну проста жыць не можа без вітамінаў. Яму падавай на закуску агуркі, памідоры, пятрушку... Вярнуўшыся з месц, як кажуць, не вельмі аддаленых, ён не спяшаўся ўладкавацца на работу, а збіраў «разведданыя» аб тым, у каго тых вітамінаў у дастатковай колькасці. Таму і абрабаваў В. Карась рабочую кансервавага завода, жыхарку гарадскога пасёлка Тураў З. Краўцову, забраўшы ажно 25 трохлітровых слоікаў кансервацыі і прыхапіўшы заадно дзве пары яе чобатаў.**

**Мясцовая міліцыя «выцягнула» В. Карася «на бераг».**

---

*Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

## АБ УПАРАДКАВАННІ ПРОДАЖУ ТАВАРАЎ НАСЕЛЬНІЦТВУ РЭСПУБЛІКІ

У мэтах паляпшэння забеспячэння насельніцтва харчовымі і нехарчовымі таварамі, недапушчэння незаконнага вывазу іх за межы рэспублікі Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Аблвыканкомам, Мінскаму гарвыканкому, Міністэрству гандлю, Белкаапсаюзу, іншым міністэрствам і ведамствам, якія маюць гандлёвую сетку, забяспечыць пачынаючы з 20 лістапада 1991 г. продаж усіх тавараў толькі жыхарам рэспублікі, выкарыстоўваючы для гэтага спісы, талоны, візітныя карткі пакупніка, зыходзячы з існуючай практыкі, з абавязковым прад'яўленнем пашпарта або іншага дакумента, што пацвярджае асобу, і захаваннем устаноўленых норм водпуску.

Расшырыць нарміруемы продаж прадукцыі жывёлагадоўлі і іншых харчовых тавараў з улікам патрабаванняў пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 6 лістапада 1991 г. нумар 417.

Рэкамендаваць аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому забяспечыць замацаванне гарадскога насельніцтва за канкрэтнымі магазінамі па месцы пражывання для набыцця нарміраваных харчовых і асобных нехарчовых тавараў.

2. Міністэрству гандлю, Белкаапсаюзу, аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому прадоўжыць работу па забеспячэнню больш рацыянальнага размеркавання таварных рэсурсаў з улікам максімальнага выраўноўвання сярэднедушавога спажывання гарадскіх і сельскіх жыхароў.

3. Міністэрству гандлю, Ашчаднаму банку да 1 снежня 1991 г. расшырыць пералік тавараў, рэалізуемых па чэкавых кніжках Ашчаднага банка, маючы на ўвазе, што продаж тавараў коштам 500 рублёў і вышэй павінен ажыццяўляцца толькі па гэтых кніжках.

4. Устанавіць, што вызначаны гэтай пастановай парадак рэалізацыі тавараў насельніцтву абавязковы для ўсіх дзяржаўных прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў, а таксама прадпрыемстваў спажывецкай кааперацыі, незалежна ад крыніц набыцця імі тавараў, уключаючы бартэрныя або іншыя здзелкі, і месцы іх продажу.

Асобы, якія парушаюць устаноўлены ў рэспубліцы парадак рэалізацыі тавараў, вызваляюцца ад займаемай пасады, прыцягваюцца да адміністрацыйнай, крымінальнай і матэрыяльнай адказнасці ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

5. Абавязаць аблвыканкомы, Мінскі гарвыканком, органы кіравання гандлем усіх узроўняў рэгулярна інфармаваць насельніцтва рэспублікі праз друк, радыё і тэлебачанне аб становішчы спраў з таварнымі рэсурсамі і прымаемых мерах па абароне спажывецкага рынку.

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. КЕБІЧ.**

**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. КАЎКО.**

19 лістапада 1991 г. г. Мінск.

*Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

## Аб устанаўленні мытнай граніцы

У мэтах абароны эканамічных інтарэсаў Рэспублікі Беларусь, удасканалення знешнеэканамічнай дзейнасці і мытнай справы ў рэспубліцы Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Даручыць Дзяржаўнаму мытнаму камітэту Рэспублікі Беларусь сумесна з Камітэтам дзяржаўнай бяспекі, органамі пагранічнай аховы, Міністэрствам унутраных спраў ажыццявіць разгортванне пунктаў пропуску па часовай схеме на мытнай граніцы Рэспублікі Беларусь з Літоўскай і Латвійскай рэспублікамі.

Дзяржаўнаму мытнаму камітэту Рэспублікі Беларусь сумесна з мытным камітэтам СССР прадугледзець выдзяленне на гэтыя мерапрыемствы адпаведных фінансавых і матэрыяльных сродкаў.

2. Абавязаць выканаўчыя камітэты Саветаў народных дэпутатаў Віцебскай і Гродзенскай абласцей аказаць Дзяржаўнаму мытнаму камітэту Рэспублікі Беларусь садзейнічанне ў стварэнні інфраструктуры мытнай службы на граніцы Рэспублікі Беларусь з Літоўскай і Латвійскай рэспублікамі.

3. Дзяржбуду забяспечыць па заказах Дзяржаўнага мытнага камітэта Рэспублікі Беларусь праектаванне аб'ектаў мытнай інфраструктуры.

Міністэрству будаўніцтва, Белсельбуду, выканаўчым камітэтам Саветаў народных дэпутатаў Віцебскай і Гродзенскай абласцей забяспечыць узвядзенне гэтых аб'ектаў у адпаведнасці з заказамі Дзяржаўнага мытнага камітэта Рэспублікі Беларусь.

4. Упраўленню Беларускай чыгункі і Дзяржаўнаму мытнаму камітэту Рэспублікі Беларусь забяспечыць распрацоўку да 1 снежня 1991 г. і рэалізацыю часовай тэхналогіі мытнага кантролю грузаў, багажу і ручной паклажы пасажыраў, якія едуць праз чыгуначныя пераходы на граніцы Рэспублікі Беларусь з Літоўскай і Латвійскай рэспублікамі.

5. Міністэрству сувязі і інфарматыкі вырашыць пытанні па забеспячэнню сродкамі сувязі аб'ектаў мытнай інфраструктуры.

6. Міністэрству ўнутраных спраў да завяршэння працэсаў дэлімітацыі і дэмаркацыі дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь з Літоўскай і Латвійскай рэспублікамі забяспечыць ахову ствараемых на ёй пунктаў пропуску і кантроль за захаваннем рэжыму пераямшчэння праз дзеючыя адміністрацыйна-тэрытарыяльныя граніцы.

7. Пасля ўстанаўлення мытнай граніцы Рэспублікі Беларусь з Літоўскай і Латвійскай рэспублікамі распаўсюдзіць на асоб, якія перасякаюць гэту граніцу і перамяшчаемыя праз граніцу тавары і іншыя прадметы дзеючае мытнае заканадаўства.

8. Міністэрству гандлю прадугледзець выдзяленне па заяўках Дзяржаўнага мытнага камітэта Рэспублікі Беларусь харчовых і іншых тавараў для забеспячэння функцыянiравання структурных падраздзяленняў мытнай службы на граніцы Рэспублікі Беларусь з Літоўскай і Латвійскай рэспублікамі.

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. КЕБІЧ.**

**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. КАЎКО.**

18 лістапада 1991 г. г. Мінск.

## З рабочым візітам

18—19 лістапада ў Мінску з рабочым візітам знаходзіўся Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Туніскай Рэспублікі Слахеддзін Абдала. Мэта візіту — азнаямленне з палітычнымі і эканамічнымі працэсамі, шляхамі дасягнення рэспублікай рэальнага суверэнітэту.

Пасол быў прыняты першым намеснікам Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. Мясніковічам. Слахеддзін Абдала нанёс візіт старшыні Камісіі беларускага парламента па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях П. Садоўскаму.

Пасол меў таксама гутаркі з намеснікам міністра замежных спраў рэспублікі У. Сянько, намеснікам старшыні Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па знешніх эканамічных сувязях М. Марынічам, першым намеснікам старшыні прэзідыума Гандлёва-прамысловай палаты рэспублікі В. Някрашэвічам. Пытанні далейшага развіцця ўзаемавыгадных знешнеэканамічных сувязей прадметна абмяркоўваліся ў час наведвання прадстаўнікамі Туніса вытворчага аб'яднання «БелаўтаМАЗ».

20 лістапада пасол Туніса адбыў у Маскву.

(БЕЛТА).

## Ігар ПЫРХ: «Рэспубліку заклікалі не да спакою, а да пакорлівасці»

Жнівень 91-га, што ўзарваў, нарэшце, наша начыненае непрымірымымі супярэчнасцямі быццё, па ўсім відаць, пакрысе губляе сваю скандальную афарбоўку і паслабляе вострую цікаўнасць да падзей адных і непрыхаваныя апасенні другіх — тых, хто ўбачыў у дружнай сямёрцы новае прышэсце выратавальнікаў. Пра тое, што страсці пачынаюць паціху ўтаймоўвацца, сведчыць і апошняя сесія Вярхоўнага Савета, якая даволі паспешліва і ціха азнаёмілася з інфармацыяй Часовай камісіі Вярхоўнага Савета рэспублікі па ацэнцы дзейнасці ГКЧП. Усё завяршылася кароткай перапалкай членаў камісіі і тых, чые прозвішчы прамільгнулі ў падрыхтаванай даведцы. Старшыня камісіі Ігар Пырх не атрымаў нават слова для адказу на шматлікія пытанні, што ўзніклі ў дэпутатаў.

У сувязі з гэтым трэба прызнаць, што да журналістаў лёс аказаўся куды больш прыхільным, чым да дэпутатаў: усе свае пытанні яны маглі задаць на прэс-канферэнцыі, у якой удзельнічалі Ігар Пырх, Генеральны пракурор рэспублікі Мікалай Ігнатовіч і народны дэпутат Беларусі Віктар Кучынскі.

Што новага прагучала на прэс-канферэнцыі ў дадатак да ранейшага? У камісіі пабольшала матэрыялаў для аналізу. Адна толькі даведка, падрыхтаваная да сесіі, складае каля сарака старонак. У ёй няма прозвішчаў, фактаў, аднак аб завяршэнні работы гаварыць пакуль рана. Камісія па-ранейшаму працуе ў даволі няпростай абстаноўцы. Грунтоўнай дзейнасці перашкаджае зусім невялікі колькасны састаў камісіі, а аб'ём работы — велізарны. У дадатак многія (называліся і канкрэтныя прозвішчы) чыняць перашкоды, знішчаюць дакументы, якія маглі б дапамагчы скласці цэласнае ўяўленне. Так, у тыя жнівеньскія дні шмат дзе ў раёнах праходзілі пасяджэнні партыйна-гаспадарчага актыву, аднак многія пратаколы зніклі. У адрас камісіі працягваюць гучаць папрокі ў нагнятанні страсцей, у «паляванні на ведзьмаў», а за гэтым многія спрабуюць проста схаваць свае адносіны да ГКЧП у крытычныя дні. На думку І. Пырха, калі б путчыстам удалося пратрымацца крыху больш, рэжым надзвычайнага становішча мог бы быць уведзены і на Беларусі. Нас заклікалі не да захавання спакою, а да пакорлівасці, сказаў ён.

Як мы пачулі ў час работы апошняй сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі, некаторыя дэпутаты выказалі папрокі ў адрас членаў камісіі: ГКЧП і яго падтрымка — гэта нейкія 2—4 дні, і менавіта падзеі гэтых дзён павінны стаць прадметам работы камісіі. Але апошняя расшырыла сферу сваёй дзейнасці. Прагучала, напрыклад, інфармацыя аб мільёнах партыйных сродкаў, што выдзяляліся на вырашэнне чарнобыльскіх праблем, аднак аказаліся ўкладзенымі ў камерцыйныя банкі. У падрыхтаванай камісіяй даведцы даецца таксама аналіз некаторых аспектаў кадравай палітыкі ЦК КПБ.

Путч, на думку Ігара Пырха, не мог узнікнуць сам па сабе, з нічога, на пустым месцы. Авантурны акт членаў надзвычайнага камітэта не змог бы ажыццявіцца, калі б не грунтаваўся на той атмасферы, што складвалася, што праграміравалася ў краіне, у рэспубліцы. Увядзенне закона аб надзвычайным становішчы, надзяленне кіраўнікоў рэспублікі надзвычайнымі паўнамоцтвамі — усё гэта магло ў выпадку прыняцця адыграць сваю ролю ў развіцці падзей.

Удзельнікі прэс-канферэнцыі пачулі нямала цікавага пра з'яву, якую можна назваць палітычным шпіянажам. І. Пырх адзначыў, што многія грамадскія структуры знаходзіліся пад пільным наглядам спецслужбаў, становячыся потым тымі «дэструктыўнымі сіламі», на якія так любяць у нас спасылацца. Такая ж дзейнасць, дадаў М. Ігнатовіч, разварочвалася і вакол народных дэпутатаў СССР дэмакратычнай арыентацыі. І толькі пасля путчу, пасля звароту групы дэпутатаў, у тым ліку і яго, да В. Бакаціна, «чорныя спісы» перасталі аказваць свой нябачны ўплыў на абстаноўку.

Не даць аднавіцца ў грамадстве той абстаноўцы, што прыводзіць да пераваротаў і путчаў, — такой лічыць І. Пырх галоўную задачу камісіі. Пакуль што, на яго думку, такая пагроза не адпала.

**Кар. «Звязды».**

## Ці пагражае нам голад?

*Інтэрв'ю па вашай просьбе*

**Апошнім часам распаўсюджваецца шмат чутак, што зімой нас чакае ледзь ці не голад. Няўжо для іх сапраўды ёсць нейкая падстава? З такога пытання пачалася наша гутарка з дырэктарам Гродзенскага мясакамбіната А. ГРЫШУКОМ.**

— Сцвярджаю з усёй адказнасцю, што гораду Гродна, перакананы, усёй рэспубліцы голад не пагражае. Таму распальваць нейкія страсці вакол гэтага (чым сёння займаюцца некаторыя вашы калегі) нельга. Проста трэба рабіць усё, каб голаду не было. Цяпер аб лічбах. Безумоўна, зніжэнне вытворчасці на нашым прадпрыемстве ёсць — у параўнанні з мінулым годам на 5 працэнтаў. Прыкладна столькі ж мы страцім і ў наступным. Аднак калі раней за межы вобласці адгружалася амаль 60 працэнтаў гродзенскай мясапрадукцыі і толькі 40 працэнтаў пакідалі сабе, дык цяпер пры зніжэнні вытворчасці расце спажыванне мяса ў горадзе. Сёння толькі ад нашага камбіната Гродна атрымлівае штодзённа каля 50 тон мясапрадуктаў. Плюс пастаўкі прадпрыемстваў спажыўкааперацыі. Увогуле атрымліваецца амаль 60 тон, што азначае па 300 грамаў на чалавека ў суткі. Але прылаўкі амаль пустыя. Хто спажывае гэта мяса?

Магчыма, я памыляюся, аднак лічу, што нашым прадуктам не вельмі даражаць, бо ён танны. Мне запярэчаць, што для малазабяспечаных людзей гэта зусім не так. Аднак увогуле цана на мясапрадукты не адпавядае рэальным затратам на іх вытворчасць. Каб адпавядала, да іх ставіліся б больш эканомна. І не спатрэбяцца тады ніякія датацыі. Так што патрэбна рэальная цана.

**— Такім чынам, вы лічыце, што свабодныя цэны павінны распаўсюджвацца і на мясапрадукты?**

— Я па спецыяльнасці эканаміст і магу гаварыць пра гэта з глыбокім перакананнем. Так, цэны павінны быць свабоднымі. Я добра ўяўляю сабе, як гэта будзе цяжка (давядзецца ж не толькі гандляваць канчатковай прадукцыяй па гэтых цэнах, але па іх жа і жывёлу закупляць). Але ёсць добры вопыт іншых краін. Як у іх? Перш за ўсё дзяржава фіксуе цэны, скажам, на абястлушчанае малако, катлеты, пельмені, супавыя наборы. Каб людзі з малым даходам мелі магчымасць нешта купіць. Усё астатняе — мяса першай катэгорыі, каўбасныя і іншыя вырабы — павінна рэалізоўвацца па дагаворных цэнах. З цягам часу ажыятаж спадзе, і, паверце, не будуць гэтыя прадукты каштаваць па 150 рублёў. Сёння, на мой погляд, аптымальная цана на мяса складае 20 рублёў за кілаграм, на вараную каўбасу— 18, на вяндліну — каля 40. У больш высокіх цэнах неабходнасці не будзе.

Дарэчы, у нашага прадпрыемства нядаўна з'явіўся фірменны магазін. Дык вось, прапаную цэны там зрабіць свабоднымі. А розніцу паміж імі і сённяшнімі фіксаванымі мы згодны пералічваць малазабяспечаным сем'ям, раддому, бальніцы. Сабе будзем браць толькі сённяшнюю рознічную цану. Лічу, што падобны эксперымент быў бы вельмі карысным.

**— Аднак ці не будзе з увядзеннем свабодных цэн кілаграм каўбасы каштаваць, як адзін з яе відаў у Маскве, — 162 рублі? Ці ж гэта не перакос?**

— Так, перакос. Аднак, мне здаецца, ён склаўся наступным чынам. Адзін мяса прадаў, другі яго купіў, трэці перакупіў, чацвёрты выступіў спонсарам, пяты вырабіў каўбасу, шосты яе рэалізоўвае... І кожны, зразумела, хоча мець прыбытак. Усё гэта рабілася вельмі некампетэнтна і можа толькі скампраметаваць сам прынцып свабоднага цэнаўтварэння.

**— Анатоль Георгіевіч, а з чым усё ж звязана падзенне вытворчасці?**

— Пяць працэнтаў — гэта паўтары тысячы тон, гэта па сутнасці месячнае спажыванне нашага гархарчгандлю. Што здарылася? Па-першае, калі ўвогуле пастаўкі знізіліся на 5 працэнтаў, дык ад прыватнага сектара — прыкладна на 80. Прычын тут шмат. Людзі робяць запасы, кіруючыся чуткамі аб магчымым голадзе. Шмат жывёлы ідзе ў Літву, паколькі там значна вышэй закупачныя цэны. І можна зразумець нашых вяскоўцаў. У чаканні больш выгадных закупачных цэн прытрымліваюць жывёлу і калгасы. І тут я не магу зразумець марудлівасць нашага рэспубліканскага ўрада. Як можна, абвясціўшы з трыбуны аб намеры павысіць закупачныя цэны, гэтага не зрабіць адразу, а толькі праз нейкі час, калі пастаўкі жывёлы на перапрацоўку практычна спыніліся?

Зрэшты, у многіх гаспадарках мала што можна прытрымліваць, бо з-за ненармальнай арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці ідзе яе спад. Адбіваецца, відаць, праблема кармоў. Раней мы вывозілі ў іншыя рэгіёны шмат мяса, а таму мелі права патрабаваць ад Расіі ці Казахстана зерне. Сёння, калі пастаўкі ў саюзны фонд зменшыліся, мы патрабаваць не можам.

**— Цікава, а куды ваш камбінат адпраўляе сваю прадукцыю?**

— Каўбасныя вырабы ідуць толькі гораду Гродна. Што датычыць мяса, дык палавіна застаецца ў абласным цэнтры, астатняе накіроўваецца розным спажыўцам у межах рэспублікі. Паставак у саюзны фонд цяпер не робім увогуле.

**Гутарку вёў Б. ПРАКОПЧЫК, кар. «Звязды».**

## ФАКТ

### САМАРОДАК У... РОЦЕ

Каля пяці кілаграмаў золата ўкраў на прыіску маркшэйдэр аб'яднання «Захсібзолата» Васіль Збруеў. Выносіў ён каштоўны метал у... роце. Папаўся раскрадальнік пры продажы чарговай партыі за тысячы кіламетраў ад прыіскаў у Старой Русе. Суд адправіў «золаташукальніка» на чатыры гады ў калонію строгага рэжыму.

### КАТАСТРОФА САМАЛЁТА

**У Запаляр'і пры заходзе на пасадку ноччу ў складаных метэаралагічных умовах на аэрадроме Амдэрма пацярпеў катастрофу ваенна-транспартны самалёт АН-12. Паводле папярэдніх даных, загінула 20 чалавек, у тым ліку 6 членаў экіпажа.**

### ПРАЦЯГ «АНТЫЛЕНІНІЯНЫ»

Рэспубліканская навуковая бібліятэка імя Леніна ў Казані цяпер будзе называцца Нацыянальная бібліятэка рэспублікі Татарстан. У ліку прычын перайменавання названа і такая: Ленін ніколі не наведваў гэтага будынка.

Што застанецца ад «ленініяны», калі прытрымлівацца гэтай логікі?

### ЦЯПЕР ТОЛЬКІ ЗА СКВ

**З пачатку наступнага года за мяжу паедзе толькі той, хто зможа заплаціць за чыгуначны білет у валюце і толькі па аўкцыённаму курсу. На сёння пакуль што разлік такі: 1 долар роўны 75 рублям.**

**Дарога ад Брэста да Парыжа, паводле слоў намесніка міністра, абыдзецца кліенту айчынных чыгунак амаль у 30 тысяч рублёў.**

### У КІРАЎНІЦТВЕ — УСЕ ПІСЬМЕННІКІ!

У сталіцы адной з зямель Аўстрыі Клагенфурце адбылася прэзентацыя кнігі Старшыні Вярхоўнага Савета РСФСР Руслана Хасбулатава «Бюракратычная дзяржава». У творы чарговага кіраўніка робіцца навуковы аналіз узнікнення і развіцця бюракратызму ў нашай дзяржаве.

### ЁСЦЬ КРОЎ — БУДЗЕ ЦУКАР

**Відаць, знойдзены эфектыўны спосаб далучаць людзей да донарства. У волжскім горадзе Пучажы жыхарам, якія здалі кроў, акрамя двух адгулаў і бясплатнага сняданку даюць яшчэ талоны на кілаграм цукру, рысу, тытунёвыя вырабы. Ад жадаючых стаць донарам няма адбою.**

### УРАН ВЯРТАЕЦЦА ДАМОЎ

Першая партыя абагачанага ўрану вывезена экспертамі ААН з Ірака. Згодна з умовамі пагаднення аб спыненні баявых дзеянняў у раёне Персідскага заліва, гэты «прадукт» будзе вернуты ў краіну, адкуль быў імпартаваны Іракам, — у СССР.

### ДАПАМОЖА І УКРАІНА

**ВАШЫНГТОН. Украіна гатова ўзяць на сябе абавязацельствы па выплаце чацвёртай часткі знешняга доўгу Савецкага Саюза. Дзяржаўны міністр па пытаннях уласнасці і прадпрымальніцтва рэспублікі Уладзімір Ланавой з упэўненасцю заявіў аб здольнасці Украіны «знайсці для пагашэння 17 мільярдаў долараў з 65-мільярднай запазычанасці СССР».**

### ХОЧАШ МАНДАРЫНЫ — ДАВАЙ БУЛЬБУ

Цытрусы з Грузіі цяпер будуць паступаць у іншыя рэгіёны краіны толькі ў абмен на прадукты харчавання. Такое рашэнне прыняў Кабінет міністраў рэспублікі. Гэта выклікала незадавальненне вытворцаў: прадукцыя, якая хутка псуецца, можа пагніць, пакуль знойдзе свайго пакупніка.

### ПРАПАЛА... ДАПАМОГА

**Яшчэ 8 лістапада праехала праз Ужгарадскі кантрольна-прапускны пункт машына, якая везла ў Новарасійск гуманітарную дапамогу з-за мяжы, і... знікла. Старшыня гарвыканкома атрымаў тэлеграму, у якой пазначаны канкрэтны адрас атрымальніка — сумеснае прадпрыемства «Скіф». Аднак такога СП у горадзе не існуе. 2,5 тоны адзення і прадуктаў харчавання наўрад ці знойдуцца, лічаць новарасіяне.**

### ГРЫЎНІ ПАЙШЛІ

Пра гэта паведаміў намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка Украіны Аляксандр Саўчанка, які прыехаў з Канады, дзе з друкарскага станка сышлі першыя ўкраінскія банкноты — грыўні. Выраблях іх пачала кампанія «Кенадзіен банкнот».

**(Па матэрыялах ТАСС і друку).**

ФАКТ ФАКТ

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

## Гэта цікава

### Сонечная сістэма з «дзівацтвамі»

На чарговым сходзе Амерыканскага астранамічнага таварыства падведзены вынікі апошніх даследаванняў Сонечнай сістэмы. Адной з найбольш смелых гіпотэз стала меркаванне аб тым, што за мільён кіламетраў ад Зямлі вакол Сонца круцяцца тысячы маленькіх планет, падобных на Плутон. Вучоныя лічаць, што гэтыя «лядовыя карлікі», размер якіх складае каля палавіны Месяца, з'явіліся ў пачатковы перыяд узнікнення Сусвету дзякуючы магутнаму гравітацыйнаму ўздзеянню такіх планет-гігантаў, як Сатурн і Юпітэр. Зусім верагодна, што спадарожнікі Нептуна — Плутон, Харон і Трытон — з'яўляюцца гэтымі «лядовымі карлікамі», трапіўшымі ў поле прыцягнення планеты і не здолеўшымі яго пераадолець.

Вучоныя Цэнтра астрафізікі і касмічнай астраноміі Каларадскага ўніверсітэта лічаць Плутон, Харон і Трытон рэшткамі некалі існаваўшай велізарнай папуляцыі падобных касмічных цел. Паводзіны гэтых планет дзіўныя, а іх астрафізічныя параметры не паддаюцца апісанню з пункту погляду стандартных уяўленняў аб Сонечнай сістэме.

### Што ўплывае на вылячэнне

У Англіі апублікавана цікавае даследаванне, якое сведчыць аб тым, што набліжаецца эпоха пераасэнсавання нашых поглядаў на прыроду і месца, што займае ў ёй чалавек. Згодна з апошнімі данымі англійскіх медыкаў, жанчыны, якія перанеслі аперацыю з прычыны раку малочнай залозы ў першыя дні ці, наадварот, у канцы свайго менструальнага цыкла, жывуць значна больш, чым іншыя. Даследаванні паказалі, што 84 працэнты жанчын, якім была зроблена гэта аперацыя на працягу першых двух ці паміж 13-м і апошнім днямі месячнага цыкла, жывуць пасля яе не менш 10 гадоў, у той час як толькі 54 працэнты жанчын, што перанеслі гэту аперацыю паміж 3-м і 12-м днямі цыкла, удаецца пражыць такі ж тэрмін.

На думку вучоных, тлумачэнне гэтай з'яве трэба шукаць у зменах гарманальнага ўзроўню, што адбываюцца ў час менструацыі.

### Сустрэча праз паўстагоддзя

49 гадоў спатрэбілася дзвюм сёстрам-францужанкам, каб знайсці адна адну. Іх маці загінула ў перыяд акупацыі Францыі нямецкімі войскамі, і маленькія дзяўчынкі-сіроткі былі аддадзены на выхаванне ў розныя сем'і.

Аказалася, што апошнія восем гадоў сёстры, якім цяпер крыху больш за 50, пражылі за 15 кіламетраў адна ад адной.

Іх сустрэчы дапамог выпадак. Сын адной з іх, які працаваў вадзіцелем у мясцовай бальніцы, выпадкова даведаўся, што жанчына, якую ён вёз, правяла сваё дзяцінства ў тым жа невялікім гарадку, што і яго маці. Далейшыя распытванні пераканалі яго ў тым, што перад ім родная цётка, якая ўжо страціла надзею знайсці сястру.

# Масла прадаў, а грошы прысвоіў

## З залы суда

М. Жук працавала загадчыцай магазіна № 11 Пінскага гарплодаагароднінагандлю. Заканчваўся квартал, а магазін не выконваў план па рэалізацыі тавараў на суму каля 15 тысяч рублёў.

Марыя Аляксандраўна вырашыла любой цаной выканаць план. Яна разумела, што ад гэтага залежаў размер заработнай платы работнікаў магазіна і, канешне, яе асабіста. Выканаеш план — прэміі за квартал, пашана загадчыцы. Тым больш, што на гэтай пасадзе яна працавала непрацяглы час.

Усім вядома, што для прыняцця любога рашэння вялікіх намаганняў не патрабуецца. Тут і ўспомніла загадчыца магазіна, што ў Львоўскай вобласці суседняй рэспублікі можна хутка рэалізаваць вялікую колькасць масла — у мясцовага насельніцтва такі прадукт харчавання карыстаецца павышаным попытам. Яна прапанавала вадзіцелю аўтабазы гарплодаагароднінагандлю Мікалаю Гусаку паехаць у гэтую вобласць і прадаць 1.020 кілаграмаў масла. Апошні не прымусіў сябе ўпрошваць.

Масла было прададзена на рынку горада Нікалаева Львоўскай вобласці. Пры вяртанні дамоў Мікалай Гусак заехаў на рынак горада Львова, дзе, відаць, забыўся, што выручаныя за масла грошы належаць магазіну № 11 Пінскага гарплодаагароднінагандлю, а не яму асабіста. На гэтыя грошы ён купіў сабе за 100 рублёў куртку, некалькі дзесяткаў цацак.

Ён настолькі захапіўся пакупкамі, што страціў сумку з грашыма. Праўда, знайшліся сумленныя людзі. Толькі ён зайшоў у аддзяленне міліцыі на рынку, як тут аказалася жанчына, якая, як высветлілася, і знайшла тую сумку. З радасці ён даў ёй 50 рублёў за праяўленую сумленнасць.

Вярнуўшыся дадому, выявіў, што ім патрачана 700 рублёў дзяржаўных грошай. Ён паабяцаў іх вярнуць, але не вярнуў.

Праз некалькі дзён Марыя Жук другі раз даручыла Мікалаю Гусаку прадаць 1.020 кілаграмаў масла на 3.468 рублёў. Масла ён рэалізаваў, як і раней, на рынку горада Нікалаева, але на гэты раз грошай зусім не вярнуў, а прысвоіў іх. З гэтага часу ён перастаў выходзіць на работу, стаў ад усіх хавацца, каля трох месяцаў знаходзіўся ў горадзе Кем Карэльскай АССР, жыў у сваіх родзічаў.

Але вось грошы скончыліся. Тут Мікалаю прыйшлося задумацца аб сваім жыцці. Ён зразумеў, што ўчыніў злачынства, і органамі ўнутраных спраў аб'яўлены яго пошук. Перад ім адкрываліся два шляхі: або вярнуцца ў свой горад і з'явіцца з пакаяннем у следчыя органы, тым самым у адпаведнасці з Крымінальным кодэксам змякчыць сваю адказнасць за ўчыненае злачынства, або ж прадоўжыць злачынную дзейнасць і тым самым абцяжарыць віну.

Перамог здаровы сэнс. Мікалай выбраў першы шлях. Пінскім гарадскім судом за крадзеж дзяржаўнай маёмасці ў буйных размерах Мікалай Гусак асуджаны на 6 гадоў пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ў папраўча-працоўнай калоніі строгага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем права на працягу пяці гадоў займаць пасады, звязаныя з водпускам таварных каштоўнасцей насельніцтву і распараджэннем грашовымі сродкамі. Ён абавязаны кампенсаваць Пінскаму гарплодаагароднінагандлю ўсе нанесеныя матэрыяльныя страты.

З прыгаворам суда асуджаны пагадзіўся. Прыгавор уступіў у законную сілу. На гэтым у данай крымінальнай гісторыі можна было б паставіць кропку. Зло пакарана. Аднак у гэтай гісторыі многае не зразумела. У адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам забараняецца даваць тавары нематэрыяльна-адказным асобам, а вывозіць іх за межы Рэспублікі Беларусь без спецыяльнага дазволу забараняецца любому грамадзяніну. Аб гэтым не маглі не ведаць загадчыца магазіна Марыя Жук і кіруючыя работнікі Пінскага гарплодаагароднінагандлю, якія давалі дазвол на выезд аўтамашын з таварамі за межы рэспублікі.

Да таго ж, Мікалая Гусака нельга было і блізка падпускаць да матэрыяльных каштоўнасцей. Раней жа ён два разы прыцягваўся да крымінальнай адказнасці за крадзеж асабістай маёмасці грамадзян і адбываў пакаранне ў месцах пазбаўлення волі.

**Л. ГРАНКОЎСКІ,**
**пракурор следчага ўпраўлення Пракуратуры Рэспублікі Беларусь.**

## Тэатр спорту

З'яўленне кінбоксінга на сусветнай спартыўнай арэне адносяць да пачатку 70-х гадоў. У нашай краіне гэты від спорту пераЖЫў гады забароны. Цяпер настаў час вялікай папулярнасці.

Сёння нашы зборныя каманды ўдзельнічаюць у сусветных і еўрапейскіх першынствах па кінбоксінгу. Адным з яго найбольш цікавых раздзелаў лічаць сольныя кампазіцыі, якія ўключаюць у сябе не толькі прыёмы ўсходніх адзінаборстваў, але і элементы акрабатыкі, гімнастыкі, танца, а часам і акцёрскага майстэрства. Таму і нарадзілася ў трэнера зборнай каманды краіны па сольных кампазіцыях кінбоксінга Яўгена Кацельнікава і яго аднадумца Сяргея Яцко ідэя стварэння беларускага тэатра спорту. У трупу новага творчага аб'яднання ўключаны баксёры і кінбаксёры, акрабаты і гімнасты, таэквандысты і каратысты — спартсмены як дзеючыя, так і тыя, хто пакінуў вялікі спорт.

Падрыхтавана і першая паказальная праграма. А пакуль што першы ў рэспубліцы тэатр спорту «КІК ФАЙТЭР» робіць свае першыя крокі. Не змяншае энтузіязму маладых артыстаў ні цесная спартыўная зала па вуліцы Матусевіча, 59, якую яны, дарэчы, абсталявалі самі, ні адсутнасць касцюмераў і грымёраў, масажыстаў і сваёй сцэны, пра што даводзіцца толькі марыць. У барацьбе з гэтымі і іншымі цяжкасцямі праяўляюць свой байцоўскі характар спартсмены, якія вырашылі паспрабаваць сілы ў новым для сябе відзе спорту. Дапамогу ім аказала малое прадпрыемства «Інтэрэкспрэс» пры Саюзе тэатраў-студый Рэспублікі Беларусь, якое стала заснавальнікам «КІК ФАЙТЭРа».

**Н. ПАДЛЕСНАЯ.**

НА ЗДЫМКАХ: шмат прыгожых кампазіцый убачаць гледачы тэатра спорту ў выкананні Ірыны КАЦЕЛЬНІКАВАЙ і Наталлі БАРДЗІЯН; выступленне двухразовай чэмпіёнкі СССР і прызёра чэмпіянатаў свету па сольных кампазіцыях кінбоксінга Таццяны АНЖЭНКА.

Фота У. ВІТЧАНКІ. (БЕЛТА).

# АСТРАЛОГІЯ З УСМЕШКАЙ

**(Працяг. Пачатак у №№ 195, 196, 198—201, 203—205, 207—210, 212, 214, 216—219).**

Калі вы хочаце зрабіць на яго ўражанне, запрасіце яго (а яшчэ лепш з маці) на абед. Прычым усе стравы павінны быць прыгатаваны вамі ўласнаручна. Калі ён запросіць вас на прагулку, захапіце з сабой малалетнюю сястрычку і будзьце да яе крайне ўважлівымі. (Калі ў вас няма малодшай сястры, пазычце дзіця ў суседзяў ці знаёмых).

Пры выкананні гэтых парад вам застанецца толькі адно выпрабаванне — атрымаць адабрэнне яго сямейства. І калі ўжо яно атрымана, можаце лічыць сябе нявестай.

Сустракаючыся з Казярогам, не трэба экстравагантна апранацца, abліваццa з ног да галавы экзатычнымі духамі і ненатуральна сябе паводзіць, інакш ваш стрыманы жаніх-Казярог, які ва ўсім паважае меру, нечакана знікне.

Паколькі Казярогу не хапае эмацыянальнасці, трэба з самага пачатку выхоўваць яго ў гэтым напрамку. Дарыце яму паэтычныя зборнікі, і чым больш рамантычны іх змест, тым лепш. Прывучайце яго быць ласкавым і праяўляць да вас знакі любві і сімпатыі. Калі вы не ўнушыце яму гэтага з з першых жа дзён вашага сумеснага жыцця, не скардзіцеся потым, што ён не гаворыць вам пра сваё каханне. А калі вы паспрабуеце яго ў гэтым папракнуць, ён можа запярэчыць: «Я цябе не кахаю? Ды ты звар'яцела. Ты хіба не памятаеш, што я сказаў, калі мяне пра гэта спытаў свяшчэннік у дзень нашага вяселля?»

Хоць у Казярогаў усё строга рэгламентавана, пачынаючы ад траты грошай і канчаючы каханнем, менавіта з імі вы будзеце надзейна застрахаваны ад любых нечаканасцей як эмацыянальнага, духоўнага, так і матэрыяльнага характару. Калі вы па натуры чалавек не вельмі страсны, а разумны і разважлівы, вам гэта можа быць даспадобы. У той час як іншыя мужчыны растрацяць свае пачуцці ў юнацтве, Казярог будзе цаніць і кахаць вас усё жыццё, незалежна ад таго, колькі сівых валаскоў прыбавіцца на вашай галаве ці колькі маршчынак з'явіцца на вашым твары.

### КАЗЯРОГ-ЖАНЧЫНА

Адна з найбольш прыемных рыс натуры Казярога — незвычайная выхаванасць і ўменне валодаць сабой. Па манерах, заўсёды бездакорных, вы ніколі не здагадаецеся аб яе сацыяльным паходжанні.

Дзякуючы вялікай вытрымцы і сіле волі Казярога вам будзе здавацца, што ў яе заўсёды добры, роўны настрой. Але гэта не так. Планета Сатурн дорыць сум, песімізм і меланхолію, і жанчыне-Казярогу прыходзіцца прыкласці нямала сіл, каб змагацца з такой схільнасцю. Вы, са свайго боку, павінны садзейнічаць таму, каб дрэнны настрой спасцігаў яе як мага радзей. А для гэтага ніколі не жартуйце з ёю. Яна гэтага не церпіць. Не падманвайце яе, асабліва ў сур'ёзных справах, і хваліце, калі яна таго заслугоўвае.

У сямейным жыцці Казярог ва ўсім прытрымліваецца заведзеных парадкаў, традыцый і строгага этыкету.

Мужчына, які выбраў у жонкі Казярога, павінен паважаць і шанаваць яе сям'ю. Не дазваляйце сабе размоў і жартаў аб цешчах у яе прысутнасці. У адносінах да сваіх бацькоў яна здольная на такія ахвяры, што часам гэта можа нават адбіцца на дабрабыце яе ўласнай сям'і. Праўда, у такой прыхільнасці да сваякоў ёсць і станоўчыя бакі. Падобнай жа ўвагай яна акружыць не толькі вашых бацькоў, але і братоў, і сясцёр, калі яны ў вас ёсць.

Казярогі любяць сур'ёзную класічную музыку і нераўнадушныя да ўсіх відаў мастацтва. Казярог рамантычны. Праўда, яна не адабрае рамантызму жабракоў. Згодна з яе пераканаыннем, у жыцці трэба выбраць высокую мэту і ісці да яе, пераадольваючы ўсе перашкоды. Толькі ў гэтым заключаецца для яе сапраўдная рамантыка, а зусім не ў тым, каб услаўляць шчасце ў шалашы.

Казярогу патрабуюцца вашы ўвага і клопаты, каб пераадолець няўпэўненасць у сабе і сваіх сілах. Яна ж у адказ адорыць вас каханнем і адданасцю, якія будуць суправаджаць вас усё жыццё.

### КАЗЯРОГ-ДЗІЦЯ

У дзяцей-Казярогаў моцная воля, і яны цвёрда ведаюць, чаго хочуць. Але ў адрозненне ад іншых дзяцей яны не будуць выказваць свае жаданні крыкамі ці іншымі праяўленнямі ўпартасці. Калі ім штосьці не падабаецца, яны спакойна паглядзяць вам у вочы, і вы зразумееце, што былі несправядлівымі. Прычым адчуеце сябе вінаватым школьнікам перад настаўнікам.

Дзіця-Казярог з ранняга ўзросту вызначаецца дысцыплінаванасцю. Яго цацкі ляжаць у пэўным месцы, і ён будзе пратэставаць, калі вы парушыце ўстаноўлены ім парадак. І хлопчыкі, і дзяўчынкі-Казярогі даволі паслухмяныя і рэдка «ходзяць на галаве».

Казярогі-дзеці вельмі прывязаныя да дома і сям'і. Дзіця-Казярог любіць гуляць з бацькамі, а калі яны заняты, пасядзіць дома, але не пабяжыць у двор да сваіх равеснікаў.

У яго рэдка бывае многа сяброў, затое абавязкова ёсць блізкі сябар, якому ён даверыць усе свае сакрэты і тайны.

Перад усімі гульнямі дзеці-Казярогі аддаюць перавагу гульням у дарослых: маму і тату, урача — пацыента, настаўніка — вучня, прадаўца — пакупніка і г. д. Казярогі таксама любяць маляваць і слухаць музыку, але больш за ўсё займацца тым, што мае які-небудзь практычны сэнс, напрыклад, майстраваць.

Дзеці-Казярогі паслухмяныя, надзейныя, настойлівыя, але вельмі нясмелыя, няўпэўненыя ў сабе і некамунікабельныя. У сувязі з гэтым у пераходным узросце і асабліва ў перыяд першага кахання ўзнікае нямала праблем. У такіх выпадках дзецям трэба дапамагчы пераадолець страх, нясмеласць і няўпэўненасць.

### КАЗЯРОГ-НАЧАЛЬНІК

Для сваіх падначаленых Казярог — бацька родны, строгі, але справядлівы. Ён патрабуе ад супрацоўнікаў не проста паслухмянасці, але самаадданасці. Даручэнні ніколі не робяцца ў загадным тоне ці, не дай Бог, з крыкам. Голас яго спакойны, за выключэннем тых выпадкаў, калі яго ўзрушаць нядбайнасць ці няўважлівасць.

Супрацоўнікам ён ніколі не робіць кампліментаў. Хваліць ён вельмі стрымана. Затое заўсёды ўважліва выслухае вашу праблему і, калі гэта ў яго сілах, абавязкова дапаможа.

На заахвочванні Казярог не вельмі шчодры, але работнік, які заслужыў прыбаўку, заўсёды атрымае яе ў тэрмін.

Казярог-начальнік настолькі сціплы, што пры самым нязначным упамінанні аб яго вартасцях вушы ў яго гараць. У яго настолькі развіта пачуццё адказнасці, што ён часам забываецца на самыя надзённыя патрэбы: яду і адпачынак.

Ён не будзе губляць дарэмна часу, ды і вам не дазволіць.

Калі Казярогу-начальніку не падабаецца штосьці ў яго падначаленых, ён рэдка зробіць ім заўвагу — проста адзначыць гэты недахоп пра сябе ці адрэагуе на яго ўзнятым у здзіўленні брывом.

Казярог не любіць, калі падначаленыя яму жанчыны ўжываюць яркую касметыку і духі з моцным пахам. У мужчынах не адабрае барады і доўгіх валасоў, а таксама занадта вольнага ці неахайнага адзення.

Не бойцеся гаварыць у яго прысутнасці аб сваіх блізкіх і аб вашых да іх адносінах. Ён гэта ацэніць.

І самае галоўнае, сачыце за сабой і сваімі манерамі, будзьце стрыманымі на язык, кемлівымі і дысцыплінаванымі і ніколі, чуеце, ніколі не звяртайцеся да яго па імені (нават пры самых цёплых адносінах) у прысутнасці пабочных. Калі вы будзеце адпавядаць усім гэтым патрабаванням, Казярог стане адносіцца да вас, як да роднага, і вы прапрацуеце з ім доўгія гады (ці столькі, колькі самі захочаце).

### КАЗЯРОГ-ПАДНАЧАЛЕНЫ

Прыгледзьцеся да сваіх саслужыўцаў. Вылучыць сярод іх Казярога няцяжка. Хто прыходзіць на работу крыху раней і ідзе з работы пазней за астатніх? Хто цэлы дзень праводзіць за рабочым сталом і рэдка мільгае ў калідоры і ў курыльным пакоі? У каго заўсёды ахайны выгляд і фатаграфія сямейства на рабочым стале?

(Працяг будзе).

Да ўвагі прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў, арганізацый і дзелавых людзей!

БЕ РЕ ЗІ НА БІРЖА

БЕЛАРУСКАЯ АГРАРНА-ПРАМЫСЛОВАЯ МНОГАФУНКЦЫЯНАЛЬНАЯ БІРЖА

«Беразіна»

ПРАПАНУЕ СВАЕ ПАСЛУГІ І СУПРАЦОЎНІЦТВА.

На таргах прадстаўлены шырокі выбар сельскагаспадарчай тэхнікі, прадукцыі машынабудавання, радыёэлектронікі, электраабсталявання, мэблі, тавараў лёгкай прамысловасці і бытавога прызначэння.

Біржа прапануе 7 пастаянных брокерскіх месц па 150 тыс. руб. Для калгасаў, саўгасаў і фермерскіх гаспадарак — з 30 % скідкай.

Таргі на біржы праводзяцца штотыднёва па аўторках у 11.00 па адрасу: г. Мінск, вул. Казінца, 21, корп. 2.

Рэгістрацыя ўдзельнікаў таргоў — з 9.00.

Для разавага наведвання біржы неабходна ўнесці на разліковы рахунак біржы 50 рублёў ці ўнесці наяўнымі пры рэгістрацыі.

Біржавы канал: 78-69-13, 78-49-16, 78-06-55.

І ЗНОЎ У МІНСКУ!
ПАСТАЯННА ДЗЕЮЧАЯ ВЫСТАВАЧНАЯ ЗАЛА ФІРМА «МІНОЛТА — АЎСТРЫЯ» ПРАПАНУЕ СУЧАСНУЮ КАПІРАВАЛЬНУЮ ТЭХНІКУ І ТЭЛЕФАКСЫ:

- японская вытворчасць
- найвышэйшая тэхналогія і якасць
- сучасны дызайн
- высокакваліфікаваны сервіс у час гарантыйнага тэрміну і ў пасьлягарантыйны перыяд
- пастаўка расходных матэрыялаў, запасных частак і дэталей, што хутка зношваюцца, для кожнай прададзенай мадэлі на працягу 10 гадоў.

MINOLTA

АДЗІНЫ АФІЦЫЯЛЬНЫ ПРАДСТАЎНІК ФІРМЫ «МІНОЛТА — АЎСТРЫЯ» у Беларусі — СП «СЯМІПЛАН».

Адрас: 220053, г. Мінск, вул. Арлоўская, 58. Тэлефон: 37-88-61.

Факс: 37-35-66.

Наведайце нас. Тут вы пазнаёміцеся з прапануемымі мадэлямі ў дзеянні, атрымаеце кваліфікаваную камерцыйную і тэхнічную інфармацыю.

Выставачная зала працуе па вышэйуказаным адрасе з 20 лістапада з 10.00 да 17.00 кожны дзень, акрамя суботы і нядзелі.

САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ!

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 20 лістапада

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**15.15.** Выступленне ансамбля танца Дагестана «Лезгінка».
**16.00.** ВІА «Арызонт». Фільм-канцэрт.
**16.30.** А. Вольскі «Граф Глінскі-Папялінскі». Тэлеспектакль.
**17.35.** «Аўтамабіль ката Леапольда», «Серабрысты званочак». Мультфільмы.
**18.00.** «Слаўны горад Ноўгарад». Дак. фільм.
**18.25.** Парады ўрача. Прафілактыка віруснага гепатыту.
**18.30.** Наш каментарый. «Уперад бацькі ў пекла».
**18.35.** Панарама.
**19.00.** Адкрыццё фестывалю «Беларуская музычная восень». Трансляцыя з Белдзяржфілармоніі. У перапынку (20.00) — Калыханка.
**21.35.** Бізнесклуб «Партнёр» прапануе...
**21.40.** «Ашык-Керыб». Мастацкі фільм.
**22.55.** Рэха дня.

**Першая праграма**

**12.00.** ТСН.
**12.10.** «Драўляныя чалавечкі мастака Жыгальцава».
**12.30.** Па той бок рампы.
**13.15.** ІТВА «Астра» прадстаўляе: «Міжнародны чарнобыльскі праект».
**14.00.** Партнёр.
**14.30.** Эканамічнае агенцтва.
**15.00.** ТСН (з сурдаперакладам).
**15.15.** «Сёння і тады...»
**15.45.** «Паражэнне». Мастацкі фільм. 3-я серыя «Праўда і паўпраўда».
**17.10.** «Прапала сумленне». Мультфільм.
**17.30.** Дзіцячая гадзіна (з урокам англійскай мовы.
**18.30.** ТСН.
**18.45.** Планета.
**19.15.** «Фул-кантакт каратэ і кікбоксінг».
**20.00.** Свет захопленых. «Аўто».
**20.15.** Мастацкі фільм. «Багатыя таксама плачуць» (Мексіка). 3-я серыя.
**21.00.** Інфармацыйная праграма.
**21.40.** Сустрэча з пісьменнікам Ф. Іскандэрам.
**22.55.** Мастацкі фільм «Спектакль на зададзеную тэму».
**23.35.** ТСН.
**23.50.** Кінапанарама.
**1.05.** «Іаган-Себасцьян Бах. Этапы яго жыцця» (Германія). Фільм 2-гі.
**2.05.** «Астролаг». Мастацкі фільм. 2-я серыя.

**Расійскі канал**

**17.00.** Рамансы Г. Свірыдава ў выкананні Н. Раўціо.
**17.35.** Школа менеджэраў.
**18.05.** Сёння. Навіны рэлігійнага жыцця.
**18.40.** Крымінальныя весткі.
**19.00.** Прашу слова.
**19.15.** «Стэпавая сюіта». Дак. фільм.
**20.00.** Весткі.
**20.20.** Добрай ночы, малышы!
**20.35.** «Рускія, рускія...». Дак. фільм.
**21.35.** Праграма Філа Донах'ю. «Я хачу выхаваць сваіх дзяцей расістамі».
**22.25.** На сесіі Вярхоўнага Савета РСФСР.
**23.00.** Весткі.
**23.20.** Чэмпіянат свету па боксу.

### 21 лістапада,

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Ашык-Керыб». Мастацкі фільм.
**10.00.** «Песня жытнёвага поля». Кінанарыс.
**10.15.** А. П. Чэхаў. «Чайка».
**11.00.** «Белая варона».
**12.00.** Мультфільмы.
**12.15.** «К-2» прадстаўляе: «Абзац».
**13.00.** Кубанскае вяселле.
**13.35.** «Усходняя Сібір».
**13.45.** Рытмічная гімнастыка.
**14.15.** «М. І. Глінка. Рамансы».
**16.30.** Гісторыя Беларусі. 10-ы клас.
**17.00.** «Добрая казка». Мультфільм.
**17.15.** Канцэрт выхаванцаў Пружанскай школы мастацтваў імя Р. Р. Шырмы.
**18.00.** Роздум хлебаробаў Іванаўскага раёна аб сённяшнім дні і будучым вёскі.
**18.40.** Тыдзень беларускага ўрада. Служба інфармацыі Савета Міністраў Беларусі паведамляе.
**18.55.** Зачытайце маё пісьмо...
**19.00.** Панарама.
**19.25.** Хакей. «Дынама» (Мінск) — ЦСКА (Масква). У перапынку (19.55) — Калыханка.
**21.00.** «Агмень». Дак. фільм.
**21.40.** Крок.
**23.40.** Рэха дня.

**Першая праграма**

**6.30.** Раніца.
**9.05.** «Падаронка». Мультфільм.
**9.25.** Дзіцячая гадзіна (з урокам англійскай мовы).
**10.25.** Мастацкі фільм «Багатыя таксама плачуць» (Мексіка). 4-я серыя.
**11.10.** «Усе зоркі». Кінаканцэрт.
**12.00.** ТСН.
**12.10.** Паводле зводак МУС.
**12.25.** Сустрэча з пісьменнікам Ф. Іскандэрам.
**13.40.** Эканамічнае агенцтва.
**14.10.** Блакнот.
**14.15.** Тэлемікст.
**15.00.** ТСН (з сурдаперакладам).
**15.15.** «Усім чарцям назло». Мультфільм для дарослых.
**15.35.** «Паражэнне». Мастацкі фільм. 4-я серыя. «Дачыненне да ісціны».
**17.00.** Дак. фільм «Калі-небудзь мы будзем шчаслівыя...»
**17.30.** Свет захопленых. «Увага, здымаю!»
**17.45.** Экалогія. Грамадства. Чалавек.
**18.30.** ТСН.
**18.45.** Паводле зводак МУС.
**19.00.** ...Да 16 і старэйшым.
**19.45.** Недыпламатычныя гутаркі. Прымае ўдзел Э. А. Шэварднадзе.
**20.15.** Мастацкі фільм «Багатыя таксама плачуць» (Мексіка). 4-я серыя.
**21.00.** Інфармацыйная праграма.
**21.40.** Запрашэнне да музыкі. У перапынку (22.35) — ТСН.
**23.40.** Ангажэмент тэатра «Плюс».
**0.45.** Гутаркі з епіскапам В. Радзянкам. Перадача 22-я.
**1.15.** «Надыдзе свая чарга». Пра жыццё і творчасць М. Цвятаевай.
**2.15.** «Астролаг». Маст. фільм. 3-я серыя.

**Расійскі канал**

**8.00.** Ранішняя гімнастыка.
**8.15.** Іспанская мова. 1-ы год навучання.
**8.45.** Іспанская мова. 2-гі год навучання.
**9.15.** Руская мова.
**9.45.** «Італьянцы ў Расіі. Пра два месяцы».
**17.00.** «Размінка для эрудытаў».
**17.30.** Руская мова.
**18.00.** Дак. фільм.
**19.00.** Парламенцкі веснік Расіі.
**19.15.** Грані.
**20.00.** Весткі.
**20.20.** Добрай ночы, малышы!
**20.35.** Пятае кола.
**22.25.** На сесіі Вярхоўнага Савета РСФСР.
**23.00.** Весткі.
**23.20.** «Боннскае лета». Аляксандр Градскі, Алена Камбурава, Надзея Бабкіна, Аляксандр Жаромскі, Барыс Васільеў на фестывалі мастацтваў у ФРГ.

ДА ЎВАГІ АРГАНІЗАЦЫЙ І ГРАМАДЗЯН!

Арганізацыя набудзе па безнаяўнаму ці за наяўны разлік аўтамабілі ВАЗ і РАФ (з прабегам да 20 тыс. км., год выпуску не раней 1990).

Магчымы абмен на 286 і 386 камп'ютэры.
Тэл. (8-0172) 97-31-19.

## РАДЫЁ

### 21 лістапада

7.00 — «Радыёфакт». Ранішняя інфармацыйная праграма. 8.15 — «Вясковыя ростані». 9.15 — «Сустрэча з прыгажосцю». Радыёрасказ. 10.15 — для дзяцей. Р. Баравікова. «Аповесць пра міжпланетнага пажарніка». Радыёпастаноўка. Частка другая, заключная. 10.46 — спявае вакальны ансамбль «Званочкі». Кіраўнік — кампазітар Валянціна Сярых. 11.20 — «Шчыт Чарнобылю». Пра асацыяцыю па сацыяльнай абароне работнікаў праваахоўных органаў, якія пацярпелі пры ліквідацыі аварыі на ЧАЭС. 11.40 — іграе камерна-інструментальны ансамбль Беларускага радыё і тэлебачання. 12.00 — студыя «Новая хваля». 12.30 — «У абедзенны перапынак». Інфармацыйна-музычная праграма. 13.30 — «На хвалі часу». 14.10 — «Такая пазіцыя». Публіцыстычна-палітычная праграма. 14.30 — песні В. Раінчыка. 14.50 — «Эканамічны дзённік». 15.15 — «Жыццёвыя перакрыжаванні». Да 65-годдзя Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа. 16.15 — «Рамантыкі». 16.45 — «Мы іграем і спяваем». Канцэрт. 17.15 — «Гармонія». Праграма класічнай музыкі. 18.40 — «Скрыжаванні». Прафсаюзны праблемна-публіцыстычны радыёчасопіс. 19.00 — канцэрт старадаўняга рамансa. 19.30 — гуманітарна-інфармацыйны канал радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная». 20.15 — вячэрняя казка. 20.25 — «Дзень нашага жыцця». Інфармацыйны выпуск. 20.45 — «Пошта радыё». 21.00 — «Ад шчырага сэрца». Музычная праграма. 22.30 — «Вясёлы эфір». Радыётэатр сатыры і гумару. 23.15 — радыёстанцыя «Юнацтва».

## НАДВОР'Е

### 20 лістапада

**Усход, захад, даўжыня дня: Мінск — 7.46, 16.05, 8.19; Віцебск — 7.41, 15.50, 8.09; Магілёў — 7.35, 15.55, 8.20; Гомель — 7.28, 15.57, 8.29; Гродна — 3.02, 16.20, 8.18; Брэст — 7.54, 16.29, 7.35.**

Сёння ўдзень па рэспубліцы воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі ападкі, туман, раніцай слабая галалёдзіца. Тэмпература паветра ў Магілёве, Віцебску — 2—4, Гродна, Гомелі, Мінску — 3—5, Брэсце — 4—6 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак воблачнае з праясненнямі надвор'е, 21-га часам невялікія ападкі, 22-га — без ападкаў, вецер няўстойлівы, 3—8 метраў у секунду. Тэмпература паветра ўначы мінус 2 — плюс 3, 22-га нуль — 5 градусаў марозу, удзень — нуль — 5 градусаў цяпла.

**Л. САНКЕВІЧ, інжынер-сіноптык.**

## СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ — СЁННЯ Ў НУМАРЫ

**Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**
**«Абзац».**
Нататкі з устаноўчай канферэнцыі ДДРБ. **«Чаго нам чакаць ад трэцяй сілы».**
Справы гандлёвыя — невясёлыя. **«Які ён будзе, беларускі купон?», «Перамен да лепшага не прадбачыцца...»** — карэспандэнцыі нашых супрацоўнікаў.
**«Палітыкі» з вялікай дарогі».**
**«Глядзі ў корань!»** Як адзначалася 7 лістапада ў Чачэрску.
Забастоўкі. **«Працістаянне».**
Афіша дня.

Галоўны рэдактар У. Б. НАРКЕВІЧ.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, Ленінскі праспект, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў — 32-04-52; 32-41-92, рэкламы і аб'яў — 32-35-91, навін — 32-60-13.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні неабавязкова адлюстроўваюць пункт гледжання рэдакцыі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку»

Тыраж 102.822.
Індэкс 63850.
Зак. № 222.

*Выходзіць 250 разоў на год.*

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12